# "… Міласці Вашай просім"

*альбо Адзін год у навейшай гісторыі Беларусі, адлюстраваны ў лістах, заявах, скаргах і іншых формах звароту грамадзян*

**Мінск 2006**

УДК 94 (476) «1951» (093.2)
ББК 63.3 (4 Беи)
Г93

Рэцэнзенты:
кандыдат гістарычных навук, дацэнт С. Я. Новікаў
кандыдат гістарычных навук, дацэнт М. Ф. Шумейка

Укладанне, прадмова і каментар А. А. Гужалоўскага

Рэдактар З. А. Лысенка

Кніга выдадзена пры падтрымцы Амерыканскага савета навуковых таварыстваў
The publication was supported by the American Council of Learned Societies

«…Міласці Вашай просім», альбо Адзін год у навейшай гісторыі Беларусі, адлюстраваны ў лістах, заявах, скаргах і іншых формах звароту грамадзян. Зборнік дакументаў. Укл. Гужалоўскі А. А. - Мн., 2006. – 280 с.

У зборніку “... Міласці Вашай просім”, альбо Адзін год у навейшай гісторыі Беларусі, адлюстраваны ў лістах, заявах, скаргах і іншых формах звароту грамадзян” прадстаўлены розныя формы зваротаў грамадзян БССР да ўладаў у 1951 г. Дакументы, адабраныя для зборніка, адлюстроўваюць ваганне грамадскіх настрояў і зрухі ў масавай свядомасці, якія адбываліся ў БССР у сярэдзіне XX ст. У зборнік уключаны найбольш характэрныя лісты грамадзян, а таксама рэакцыя ўлад на “сігналы з месцаў”. Кніга разлічана на шырокае кола чытачоў.

# ЗМЕСТ

# УВОДЗІНЫ

Калі скончылася вайна, шмат каму падавалася, што жыццё пойдзе па-іншаму. Яно сапраўды пайшло па-іншаму ў параўнанні з ваеннымі гадамі, калі перад краінай і асобнымі людзьмі паўстала задача выжыць, вытрымаць у барацьбе з нацызмам.

За першае пасляваеннае пяцігоддзе ў БССР было шмат чаго дасягнута. Высокімі тэмпамі ішло ўзнаўленне прамысловасці – у 1950 г. аб'ём прамысловай прадукцыі павялічыўся ў параўнанні з 1946 г. у тры з паловай разы. Былі створаны новыя галіны прамысловасці – аўтамабільная, трактарная, веласіпедная, лакамабільная, цукровая. Гордасцю рэспублікі сталі гіганты беларускай індустрыі – аўтамабільны і трактарны заводы. Значна пашырыліся станкабудаўнічая, паліўная, тэкстыльная, харчовая галіны прамысловасці. Ішло актыўнае стварэнне энэргетычнай базы – будаўніцтва электрастанцый. Калі да вайны галоўнай крыніцай эканамічнага росту было прыцягненне ў вытворчасць новых мас людзей, дык пасля таго, як рэспубліка згубіла найболыш працаздольных і таленавітых грамадзян, трэба было шукаць новыя шляхі ўзмацнення эканамічнага патэнцыялу. Беларуская савецкая гістарыяграфія слушна падкрэслівала гераічны аспект пасляваеннага гаспадарчага аднаўлення. Дасягнуць і перавысіць менш чым за пяць гадоў даваенныя прамысловыя паказчыкі – вялікае дасягненне па любых стандартах. Тым больш, калі ўлічваць страты ваеннага часу. Заданні чацвёртай пяцігодкі 1946-1950 гг. былі выкананы датэрмінова. Гадавыя тэмпы прыросту вытворчасці прамысловай прадукцыі ў БССР склалі 41,7% – адзін з лепшых паказчыкаў сярод савецкіх рэспублік. На сан-францыскай канферэнцыі 1945 г. БССР аднагалосна была ўключана ў склад дзяржаў-заснавальніц ААН.

Разам з тым, у савецкім грамадстве назіраўся працэс вяртання да старых, даваенных каштоўнасцей. У міжнародным плане гэта праявілася ў рэзкай канфрантацыі з былымі саюзнікамі, а ва ўнутранай палітыцы – ва ўзнаўленні стратэгіі камуністычнага будаўніцтва і жорсткай сацыяльнай рэгламентацыі. Да «спадчыны» 1930-х гг. вайна дадала яшчэ шэраг пунктаў, якія былі зачэпкай да праследавання грамадзян з боку ўлад, абмежавання іх правоў і магчымасцей. Першымі сярод падазроных сталі тыя, хто пабываў у нямецкім палоне альбо пражываў на акупіраванай тэрыторыі, а такіх налічвалася мільёны. Сваякі, якія апынуліся ў акупацыі, таксама сталі крыніцай праблем для многіх, асабліва для тых, хто прасоўваўся па службовай лесвіцы. Нягледзячы на тое, што пасля вайны рэпрэсіі не афішыраваліся, спецправеркі, якія праводзіліся міністэрствам

дзяржаўнай бяспекі СССР на працягу доўгага часу, часта прыводзілі да пераследу, асабістых трагедый і буйных непрыемнасцей.

Важным для разумення пасляваеннай палітычнай і грамадскай сітуацыі з’яўляецца аналіз сацыяльнай іерархіі грамадства. Афіцыйная дактрына падзяляла савецкае грамадства на сяброўскія классы і групы, якія яшчэ шчыльней з'ядналіся пасля вайны. З 178,5 млн. чалавек насельніцтва СССР у 1950 г. рабочыя складалі 36,2%, калгаснікі і члены кааператываў (у гарадах) – 41,9%, некалектывізаваныя сяляне і рамеснікі – 2,3%, інтэлігенцыя і служачыя – 19,6%. Аднак гэтая афіцыйная класіфікацыя савецкага грамадства патрабуе сур’ёзных карэктыў. Полюсамі сацыяльнага складу грамадства з’яўляліся шматлікія вязні ГУЛАГу, з аднаго боку, і разнастайныя эліты – з другога. Найбольш моцнай і ўплывовай элітарнай групай былі наменклатурныя работнікі, колькасць якіх толькі ў рамках партыйнай наменклатуры перавышала 100 тыс. чалавек. Але і на гэтых полюсах меліся істотныя варыяцыі[1].

Шырокія абагульненні аб узроўні жыцця розных груп савецкага грамадства пасляваеннага часу рабіць цяжка. Невялікая кватрплата, бясплатная медыцына і адукацыя дазвалялі жыць на мяжы неабходнага. Для большасці людзей падобнае становішча было звыклым – яшчэ не сцёрліся з памяці ўспаміны пра ваенны час і голад 1946-47 гг. Вясковае насельніцтва ў большасці жыло з прысядзібных участкаў. Разлічыўшыся з дзяржаваю па абавязковых пастаўках (у адваротным выпадку калгаснік лічыўся дэзерцірам, спекулянтам і падвяргаўся штрафу альбо турэмнаму зняволенню), селянін, як правіла, нёс на рынак не лішкі сваёй вытворчасці, а прадукты, неабходныя для спажывання яго сям’і, каб на ўтаргаваныя грошы купіць які-небудзь “прамтавар”. Для гараджан паказальныя лічбы ніжэйшых узроўняў заробкаў. Так, адразу пасля вайны афіцыйная сума неабкладаемых падаткамі прыбыткаў была ўзнята з 150 да 280 рублёў у месяц, што можа даць уяўленне пра мінімальныя заробкі. Студэнцкая стыпендыя складала 280 рублёў, сталінская стыпендыя – 400, аспірантам плацілі 800. Ёсць звесткі, што заробкі рабочыхбудаўнікоў у 200-300 рублёў у месяц выклікалі рэзкае незадавальненне. Старшыні сельсавета плацілі 200 рублёў. Адзін з намеснікаў дырэктара МТС па палітычнай частцы скардзіўся ў Маскву, што на яго заробак у 750 рублёў жыць з сям’ёю немагчыма. Міністр дзяржбяспекі СССР В. С. Абакумаў атрымліваў у месяц 25 тыс. рублёў

---

[1] Костюкевич В. Ф., Романовский Н. В. Грани позднего сталинизма (1945–1953). Мурманск, 1994. С. 11.

– сума, дастатковая для набыцця аўтамабіля і дачы. Вартасць тагачасных грошаў можа праілюстраваць выпадак, калі ў адным з калгасаў былі растрачаны грошы на набыццё старшыні калгаса касцюма (4 тыс. рублёў) і каровы (6 тыс. рублёў)[1].

Літаратура пра пасляваеннае развіццё БССР няпоўная. У аснову канцэпцыі гэтага часу, створанай беларускімі савецкімі гісторыкамі, была пакладзена героіка пасляваеннага ўзнаўлення рэспублікі[2]. Маштабы гэтых сапраўды вырашальных для далейшага лёсу рэспублікі падзей абумовілі, на наш погляд, выпадзенне са сферы аналізу і сучасных беларускіх даследчыкаў канкрэтна-гістарычных супярэчнасцей першага пасляваеннага дзесяцігоддзя. Між тым, менавіта гэты перыяд знаходжання Сталіна ва ўладзе найбольш важны для вывучэння і разумення сутнасці сталінскай сістэмы. У гэты час сфарміраваліся як палітыкі людзі, якія пазней, да сярэдзіны 1980-х гадоў, кіравалі рэспублікай. Нарэшце, менавіта ў гэты час канчаткова сфарміраваліся культ асобы Сталіна, рэжым аўтарытарнай улады, сама сістэма сталінізму, якая паказала свае моцныя і слабыя бакі, прадэманстравала ўласцівыя ёй каштоўнасці і прынцыпы, чаканні і мэты.

Супярэчнасці грамадскага развіцця вельмі выразна прасочваюцца праз псіхалогію мас, маральнае усведамленне людзей, іх патрэбы, інтарэсы, светапогляд. Сучасныя даследчыкі навейшай гісторыі за невялікімі выключэннямі імкнуліся ў лепшым выпадку ажывіць свае творы кароткімі біяграфіямі "простых людзей", разглядаючы іх як давесак да гаспадарчага механізма. Такі падыход абумовіў фіксацыю пераважна знешняга боку гістарычнага працэсу, апісальніцтва і каментатарства. Пранікнуць па-за "бачную паверхню" гістарычнага працэсу дазваляюць такія цікавыя першакрыніцы, як звароты працоўных да вышэйшага партыйнага кіраўніцтва. Беларускімі гісторыкамі зроблены толькі першыя спробы выкарыстання зваротаў працоўных да ўлад у якасці самастойнай гістарычнай першакрыніцы[3]. Пры ўсёй сваёй спецыфічнасці – мы маем справу выключна з негатыўным бакам жыцця – яна ствараe вельмі каларытную мазаіку тагачаснага жыцця, сапраўдны калейдаскоп чалавечых лёсаў.

---

[1] Там жа. С. 40.

[2] Белязо А. П. Беларуская вёска ў пасляваенныя гады (1945-1950). Мн., 1974; Белязо Е. П. Крестьянство Белоруссии на пути к развитому социализму (1951-1960 гг.). Мн., 1982; Марченко И. Е. Рабочий класс БССР в послевоенные годы (1945-1950). Мн., 1962 і інш.

[3] Адамушко В. И., Иванова Н. В. «Помилуйте...» Документы по репрессиям 1939-1941 гг. в Вилейской области. Мн., 1992.

У дадзеным зборніку прадстаўлена менш за дзесятую частку ад агульнай колькасці зваротаў, напісаных грамадзянамі БССР вышэйшаму партыйнаму кіраўніцтву ў 1951 г. (не будзем забывацца на тое, што пісалі і ў іншыя інстанцыі – міністэрства дзяржаўнай бяспекі, савецкія органы ўлады, свайму непасрэднаму кіраўніцтву). Большасць зваротаў – гэта просьбы аб персанальных пенсіях, паляпшэнні жыллёвых умоў, лячэнні і, канешне, працаўладкаванні (заработная плата з'яўлялася адзінай крыніцай існавання людзей – астатнія віды гаспадарчай дзейнасці жорстка пераследаваліся). Другая па значнасці тэма звароту да партыйнага кіраўніцтва – даносы на начальства, таварышаў па службе, суседзяў. У большасці скаргаў адчуваецца подых нядаўняй вайны. У іх нярэдка сустракаюцца звесткі пра палітычных рэпрэсаваных, сумны лёс якіх у той ці іншай ступені закранаў таксама іх сваякоў. Звароты на беларускай мове складаюць менш за 1% .

Крытэрыем адбору матэрыялаў у зборнік была ступень рэпрэзентатыўнасці ў адлюстраванні ментальнасці пасляваеннага беларускага грамадства. Лісты да ўлад – тыпова масавая першакрыніца, якая дазваляе рабіць пэўныя высновы на аснове вывучэння іх вялікай савакупнасці. Дадзеная асаблівасць стварае адну з сур'ёзных крыніцазнаўчых праблем, уласцівых рабоце з масавымі дакументамі. Як правіла, найбольш яскравыя лісты ў недастатковай ступені адлюстроўваюць агульныя настроі насельніцтва, у той час як масіў тыповых скаргаў (нецікавых для чытача) дэманструе найбольш тыповыя рысы масавай свядомасці. Таму ў аснове адбору матэрыялу ў дадзены зборнік было імкненне дасягнуць збалансаванасці паміж адлюстраваннем сацыякультурнага аблічча беларускага грамадства, менталітэта чалавека таго часу і цікавым зместам лістоў.

Вялікая колькасць просьбаў і скарг – яскравая прыкмета таталітарнага грамадства, калі ў простага чалавека была адзіная і апошняя надзея знайсці паратунак – звярнуцца да вышэйшага кіраўніцтва. Зварот да ўлады ў выглядзе скаргаў, даносаў і г.д. у сталінскім СССР быў адзіным інструментам уздзеяння грамадства на палітычную рэальнасць, іншымі словамі – формай удзелу ў палітычным жыцці. Толькі такім чынам, ва ўмовах адсутнасці дэмакратычна абранага парламента і мясцовага самакіравання, можна было пазбавіцца ад злодзея – старшыні калгаса альбо самадура сакратара райкома. Таму кіраўніцтву не трэба было ініцыіраваць і стымуляваць гэтую актыўнасць грамадзян зверху. З іншага боку, звароты грамадзян былі ледзь не адзіным каналам, які дазваляў

кіраўніцтву ўбачыць непрыфарбаваную рэальнасць такой, якой яна была на самой справе. Ёсць прыклады таго, што рашэнні вышэйшага партыйнага кіраўніцтва карэкціраваліся пад уплывам паступіўшых “сігналаў з месц”. Колькасць жа дробных злачынстаў, махлярстваў, злоўжыванняў уладай, выкрытых дзякуючы гэтым сігналам, – незлічоная. Акрамя таго, яны дазвалялі вышэйшаму партыйнаму кіраўніцтву трымаць пад кантролем апарат чыноўніцтва. Такім чынам, аб’ектыўна звароты грамадзян, нават у выглядзе даноса, рабілі ўладу больш эфектыўнай і як вынік спрыялі яе ўмацаванню.

Але існавалі пэўныя межы ўзроўню крытычнасці заяў, пераступіўшы якія заявіцель трапляў у разрад ворагаў і антысавецкіх агітатараў. Мяжа гэта была даволі хісткай, але аўтары лістоў, напэўна, адчувалі яе, пра што сведчыць наяўнасць вялікага пласта ананімных лістоў. У некаторых выпадках па ананімных лістах, прызнаных асабліва небяспечнымі, праводзіліся спецыяльныя расследаванні з мэтаю выяўлення іх аўтараў.

Партыйныя і дзяржаўныя інстанцыі павінны былі рэагаваць на кожную скаргу альбо крытычную заўвагу. Факты падлягалі разгляду ў дакладна акрэсленыя тэрміны. Калі гутарка ішла пра камуніста, скарга разглядалася на партыйных сходах, вінаватым выносілі партыйныя спагнанні, складаўся план выпраўлення недахопаў. Заявіцель, ананімны альбо з подпісам, заявіцель меў права на адказ. Адказ павінен быў давацца той інстанцыяй, якой тычылася скарга. Звычайна ён меў даволі фармальны змест: паведамлялася, ці пацвердзіліся факты, выкладзеныя ў скарзе, потым размова ішла пра прынятыя меры. Адказ у большасці выпадкаў быў пісьмовы, але мог быць і вусным, калі існавала магчымасць выклікаць аўтара ў адпаведную інстанцыю. Калі скарга паступала ў рэдакцыю газеты, яе маглі надрукаваць у аглядзе лістоў, альбо (у большасці выпадкаў) адаслаць у адпаведную інстанцыю для прыняцця мер. У любым выпадку арганізацыя, якая падвяргалася “крытыцы працоўных”, павінна была адрэагаваць.

Канец 1940-х – пачатак 1950-х гг. – гэта перыяд найвышэйшага ўзлёту эпісталярнай творчасці савецкіх грамадзян. Павялічылася колькасць зваротаў да ўлад, пашырылася кола пытанняў, якія закраналі іх аўтары. Як вынік, напачатку 1953 г. у партапараце разгортваецца кампанія па наладжванні работы са зваротамі працоўных. Гэтай тэме былі прысвечаны пленумы райкомаў і гаркомаў, партыйныя сходы пярвічных арганізацый, прадпрыемстваў і ўстаноў. Вышэйшае партыйнае кіраўніцтва настойліва патрабавала палепшыць работу з лістамі працоўных. Паўсюдна партыйныя бюро

райкомаў і гаркомаў разглядалі справы аб нездавальняючай рабоце са скаргамі. Аднак за фармальна-бюракратычнае стаўленне да гэтай справы пакаранне было не надта строгім – звычайна абмяжоўваліся “указаннем”.

Да каго ж звярталіся грамадзяне БССР у пошуках праўды як да найвышэйшай інстанцыі?

У 1948 г., пасля абрання Г. М. Малянкова сакратаром ЦК ВКП(б), была праведзена рэарганізацыя апаратаў ЦК нацыянальных кампартый саюзных рэспублік, абкомаў, крайкомаў. Яе сутнасць заключалася ў скарачэнні штатаў і замене груваcткіх упраўленняў ЦК аддзеламі, заснаванымі па галіновым прынцыпе. У ЦК КП(б)Б былі ўтвораны: 1) аддзел партыйных, прафсаюзных і камсамольскіх органаў; 2) аддзел прапаганды і агітацыі; 3) сельскагаспадарчы аддзел; 4) аддзел цяжкай прамысловасці; 5) аддзел машынабудавання; 6) аддзел лёгкай прамысловасці; 7) аддзел транспарта; 8) планава-фінансава-гандлёвы аддзел; 9) аддзел адміністрацыйных органаў; 10) аддзел па рабоце сярод жанчын. Пра значэнне, якое надавалася вышэйшым партыйным кіраўніцтвам рабоце таго ці іншага аддзела, сведчыла не толькі яго месца ў вышэйпададзеным спісе, але і штатны расклад. Так, у найбольш шматлікім аддзеле – прапаганды і агітацыі – працавала 55 чалавек, у аддзеле па рабоце сярод жанчын – 4 чалавекі. У ЦК КП(б)Б у той час працавала 274 чалавекі, з якіх 200 займалі адказныя пасады і 74 – тэхнічныя[1].

Кіраваў апаратам ЦК Сакратарыят ЦК КП(б)Б на чале з пяццю сакратарамі. Сакратарыят вызначаўся ў якасці стала дзеючага рабочага органа, асноўнай функцыяй якога была падрыхтоўка пытанняў да разгляду на бюро і праверка выканання рашэнняў. Галоўнай задачай бюро была праверка работы партыйных арганізацый, заслухоўванне справаздач абкомаў і райкомаў і прыняцце мер па паляпшэнні іх дзейнасці. Бюро разглядала і зацвярджала кіраўнічыя ўказанні па пытаннях арганізацыйнай і выхаваўчай работы. Асноўнай задачай аддзелаў ЦК вызначаўся падбор кадраў па адпаведных галінах і праверка выканання рашэнняў ЦК і Урада.

Узаемаадносіны цэнтра і месцаў нарадзілі асаблівую групу мясцовых палітыкаў – першых сакратароў абласных і раённых партыйных камітэтаў. Звычайна яны прызначаліся ў Мінску, таму іх шлях наверх альбо падзенне былі вынікам рашэння ЦК КП(б)Б. Большасць мясцовых партыйных сакратароў былі дзецьмі ваеннай фартуны. Аднак рэпрэсіі канца 1930-х гг. помніліся добра, іх трымалі

---

[1] НАРБ. Ф. 4. Воп. 1. Спр. 96. Арк. 14.

ў напружанні з дапамогай сакрэтнай інфармацыі пра “справы” кшталту ленінградскага. У эканамічным плане мясцовая партыйная эліта канцэнтравала сваю ўвагу перш за ўсё на выкананні планаў па пастаўках сельгаспрадукцыі. А паколькі сельская гаспадарка практычна паўсюль была занядбана, перад абласнымі і раённымі партыйнымі кіраўнікамі ў той час паўставалі, як правіла, невыканальныя задачы[1]. Палітычная ж дзейнасць мясцовай партнаменклатуры зводзілася пераважна да тлумачэння народу рашэнняў вышэйшага партыйнага кіраўніцтва.

Пасля вайны працягвалі губляць палітычны ўплыў Саветы – скарацілася колькасць сур'ёзных дэбатаў, значных ініцыятыў, адбылося канчатковае падпарадкаванне дыктату партыі ў кадравых прызначэннях. У іерархіі структур, якія ўтваралі сталінскую сістэму, Саветы знаходзіліся не толькі пасля партыі, але і служб дзяржбяспекі, арміі, выканаўчых органаў урада. Любы крок Саветаў усіх узроўняў папярэдне абмяркоўваўся і адабраўся адпаведнай партыйнай інстанцыяй. Так, падчас правядзення выбараў у Вярхоўны Савет БССР 25 лютага 1951 г. спісы кандыдатаў у дэпутаты, парадак дня сесій, перамяшчэнні савецкіх работнікаў па службовай лесвіцы, узнагароджванні і да т.п. – усё гэта зацвярджалася сакратарыятам ЦК КП(б)Б.

Прызначэнні савецкіх работнікаў адбываліся ў партыйных кабінетах, а за іх работай уважліва сачылі аддзелы партыйных, прафсаюзных і камсамольскіх органаў адпаведных камітэтаў партыі. Падрыхтоўка савецкіх работнікаў праводзілася ў партшколах, дзе яны вучыліся разам з будучымі партыйнымі функцыянерамі. І па заробках, і па іншых прывілеях партыйная і савецкая наменклатура былі прыкладна ў аднолькавым становішчы. Склад дэпутатаў Саветаў камплектаваўся ў асноўным з асоб, якія ўваходзілі ў наменклатурныя спісы партыйных камітэтаў. Да іх дадаваліся пэўныя групы рабочых і сялян, каб пацвердзіць тытульную назву Саветаў працоўных. Вызваленыя савецкія работнікі камплектаваліся пераважна з менш удалых партыйных функцыянераў, якія не бралі да ўвагі факт агоніі Саветаў. Роля гэтых органаў, калі паглядзець парадак дня сесій таго часу, была зведзена да руціннага прыняцця бюджэтаў, адабрэння указаў, ужо ўхваленых у партыйна-урадавых інстанцыях, а таксама да зацвярджэння вызначанага канстытуцыяй кола работнікаў. Асабліва бачны заняпад Саветаў быў на нізавым узроўні.

[1] Данилов А. А., Пыжиков А. В. Рождение сверхдержавы. СССР в первые послевоенные годы. М., 2001. С. 232.

Сістэма не магла працаваць без адпаведных «кадраў», на якіх звярталі вялікую ўвагу. Кожнае міністэрства і цэнтральнае ведамства мела сярод намеснікаў міністра (кіраўнікоў) чалавека, звычайна афіцэра МДБ у цывільным, які адказваў за гэту работу. Кадравікі адсейвалі тых, хто здаваўся ненадзейным і прасоўвалі наперад лаяльных і рэзультатыўных. У пасляваенных умовах сталінскі лозунг “кадры вырашаюць усё” пераўтварыўся ў практыку, калі ўсё, уключаючы лёсы людзей, вырашалі аддзелы і ўпраўленні кадраў. Асаблівая ўвага надзялялася “кадрам”, жыццёва важным для функцыянавання сістэмы. Акрамя адбору, запалохвання і “клопату” аб такіх людзях, ужываліся больш тонкія метады, уключаючы разгалінаваную сістэму прывілей – да размеркавання прадуктаў, спажывецкіх тавараў, паслуг. Многія, калі не ўсе партыйныя і ўрадавыя арганізацыі стваралі ў сябе падраздзяленні забеспячэння для аказання паслуг ключавому персаналу. Насельніцтва абуралася падобнай практыкай. Перад XIX з’ездам КПСС выказвалася шмат незадаволенасці наконт прыслугі ў непрацуючых жонак кіраўніцтва, персанальных машын, якія выкарыстоўваліся для задавальнення асабістых патрэб, матэрыяльнай дапамогі высокапастаўленым чыноўнікам.

Людзі вельмі часта скардзіліся ў ЦК КП(б)Б на несправядлівасць судовай сістэмы і жорсткасць альбо абыякавае стаўленне да іх праваахоўных органаў. Галоўнай прычынай злачыннасці, якая ахапіла ўвесь СССР ў пасляваенны перыяд, была беднасць. Для набыцця самага неабходнага – ежы, адзення і да т.п. людзі ішлі на крадзеж, рабаўніцтва, забойства. У склаўшыхся абставінах кіраўніцтва краіны ўзмацняла карныя функцыі дзяржавы. Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР ад 4 чэрвеня 1947 г. “Аб крымінальнай адказнасці за крадзеж дзяржаўнай і грамадскай маёмасці”[1] і “ Аб узмацненні аховы асабістай уласнасці грамадзян”[2] пераўзышлі па сваёй жорсткасці Закон ад 7 жніўня 1932 г., празваны ў народзе “законам аб пяці каласках”. У адпаведнасці з указамі 1947 г. мінімальны тэрмін за крадзеж, прысваенне альбо растрату дзяржаўнай маёмасці складаў ад 7 да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў, а за паўторнае альбо здзейсненае ў групе падобнае злачынства – да 25 гадоў з канфіскацыяй маёмасці.

Указ аб ахове асабістай маёмасці быў больш лагодны. У ім за разбой, гэта значыць напад з мэтай завалодвання чужой маёмасцю з

---

[1] Сборник законов СССР и Указов Президиума Верховного Совета СССР. 1938-1956. М., 1956. С. 398.

[2] Там жа.

ужываннем альбо пагрозай гвалту давалася ад 10 да 15 гадоў з канфіскацыяй маёмасці. Паводле сакрэтнага распараджэння Савета Міністраў СССР, дзеянне ўказаў ад 4 чэрвеня 1947 г. было распаўсюджана і на дробныя крадзяжы на вытворчасці, у выніку чаго рабочыя, калгаснікі, служачыя асуджаліся за дробны крадзеж не да аднаго года пазбаўлення волі, як гэта было раней, а да 7-10 гадоў. На практыке судовыя органы ў большасці выпадкаў за крадзёж дзяржаўнай маёмасці, незалежна ад асобы абвінавачанага, а таксама ад характару і памераў скрадзенага (напрыклад, парожняга мяшка), прызначалі найвышэйшы тэрмін – 10 гадоў. Указы і пастановы раздулі нечувана гучную кампанію па барацьбе з крадяжом. У сціслыя тэрміны суды правялі сотні і тысячы паказальных працэсаў. Праз паўгода пасля выхаду ўказаў турмы і лагеры былі перапоўнены. Але ў пасляваенных эканамічна складаных умовах эскалацыя крымінальнага заканадаўства ўдарыла не столькі па сапраўдных крымінальніках – буйных рабаўніках дзяржаўнай і асабістай маёмасці, колькі па абяздоленых людзях, у тым ліку жанчынах і падлетках. Па ўсіх відах злачынстваў дамінавалі самыя нізкааплатныя і найменш адукаваныя сацыяльныя групы насельніцтва – рабочыя і сяляне.

Нізкім быў узровень таго, што мела назву сацыялістычнай альбо рэвалюцыйнай законнасці. Канешне, рабіліся крокі ў накірунку захавання прынамсі знешняга выгляду законнасці ў паўсядзённым жыцці грамадзян, але дакументы сведчаць, што парушэнняў было шмат. Указам Вярхоўнага Савета СССР ад 23 ліпеня 1951 г. “За ўхіленне ад грамадска карыснай працы і за вядзенне паразітычнага ладу жыцця” уводзілася крымінальная адказнасць[1]. Характэрна, што “псіхушкі” ужо выконвалі рэпрэсіўную функцыю. Начальства стала практываць адпраўку ў псіхіятрычныя клінікі асоб, якія надакучвалі настойлівымі просьбамі, петыцыямі і г.д. Былі выпадкі адпраўкі здаровых людзей з прыёмнай Вярхоўнага Савета СССР у псіхіятрычную клініку толькі таму, што чалавек прыходзіў туды кожны дзень, займаў чаргу і чакаў.

У вялікай колькасці зваротаў грамадзян да вышэйшых партыйных інстанцый знаходзім вельмі цікавыя замалёўкі паўсядзённага жыцця беларускага горада і вёскі.

Напрыканцы 1940-х – пачатку 50-х гг. у беларускіх гарадах рабіліся першыя крокі па наладжванні мірнага жыцця. Быў узноўлены 8-гадзінны працоўны дзень, адменены абавязковыя

---

[1] Зима В. Ф. Послевоенное общество: голод и преступность // Отечественная история. 1995. № 5. С. 45.

звышурочныя работы, рабочыя і служачыя зноў атрымалі штогадовы аплачваемы адпачынак, наладжваў работу транспарт. Амаль нанова была адбудавана сталіца БССР. За пяць пасляваенных гадоў у горадзе было ўзноўлена і пабудавана звыш 400 тыс. квадратных метраў жылой плошчы. Узнаўляліся іншыя гарады рэспублікі. За той жа перыяд была адноўлена дзейнасць 29 ВНУ, 110 тэхнікумаў, каля 12 тыс. школ, дзе навучалася звыш 1,5 млн. дзяцей. За пасляваеннае пяцігоддзе ў рэспубліцы было выдадзена 2 141 найменне кніг агульным накладам у 43 872 000 асобнікаў[1].

У першыя пасляваенныя гады працэсы урбанізацыі БССР у значнай ступені фарміраваліся пад уплывам Вялікай Айчыннай вайны, дэмаграфічныя вынікі якой для рэспублікі былі выключна цяжкімі. Колькасць насельніцтва рэзка скарацілася – у 1950 г. у БССР пражывала 7 778,1 тыс. чалавек, у тым ліку ў гарадах 1 619,5 тыс. чалавек (21% насельніцтва).

Гарадскія работнікі з'яўлялася другой па колькасці, пасля калгаснікаў, групай насельніцтва. Невялікі слой узорных работнікаў (стаханаўцаў), а таксама работнікі стратэгічных галін прамысловасці прыкметна адрозніваліся ўзроўнем жыцця ад асноўнай массы працоўных. Вялікую і няпростую па свайму складу групу ўтваралі служачыя. Яна складалася з многіх падгруп з розным доступам да тавараў і паслуг, па-рознаму аплачваемых і кіруемых. Многія з гэтых людзей амаль не адрозніваліся ад простых рабочых і сялян, але некаторыя належалі да субэліт па доступу да ўлады і матэрыяльных выгодах. Інтэлектуалы разглядаліся рэжымам як дзяржаўныя служачыя. Толькі адзінкі з іх здолелі захаваць матэрыяльную і духоўную незалежнасць дзякуючы таму, што ўлада не магла адмовіцца ад іх спецыяльных ведаў і навыкаў.

Мілітарызацыя працы праявілася і ў такой навіне, як увядзенне уніформы для работнікаў найважнейшых галін эканомікі. Мундзіры пачалі насіць чыгуначнікі, работнікі рачнога транспарту, грамадзянскай авіяцыі, хімікі, сувязісты, геолагі, гарнякі, чыноўнікі юрыдычных ведамстваў, дзяржаўнага кантролю, работнікі лясной галіны. Планавалася ўвесці форменнае адзенне для студэнтаў і выкладчыкаў ВНУ. Пры гэтым мелася і прагматычная мэта – надаць работнікам ключавых ведамстваў мінімальна прыстойны выгляд, бо за перыяд выйны адзенне цалкам знасілася.

---

[1] Козлов В. И. Навстречу выборам в Верховный Совет республики // Советская Белоруссия. 1951. 10 янв.

Вялікай праблемай пасляваеннага часу стала маргіналізацыя гараджан. Гаворка ідзе не толькі пра дэмабілізацыю, працаўладкаванне, пенсіі. Гарадскім уладам трэба было клапаціцца, каб многія людзі знайшлі сябе ва ўмовах мірнага часу. Гэта было няпроста, нягледзячы на тое, што ў сувязі з гіганцкімі чалавечымі стратамі востра паўстала пытанне працоўных рэсурсаў. Мільёны франтавікоў, эвукуіраваных, перамешчаных асоб, былых палонных, сваякоў, якія шукалі адзін аднаго, не адразу перайшлі на аседлы лад жыцця. Амаль кожнаму давялося жыць на карткі альбо пайкі. Жабракі, бяздомныя, сіроты, калекі напаўнялі гарады, чыгуначныя станцыі, рынкі ў пошуках міласціны альбо аб'екта крадзяжу як галоўнай крыніцы харчавання. Падобная маргіналізацыя, дапоўненая пакутамі і звычкай да гвалту і смерці, рабіла дэвіянтныя паводзіны паўсядзённасцю.

Яшчэ больш складанымі былі ўмовы пасляваеннага жыцця ў беларускай вёсцы. Сельская гаспадарка выйшла з вайны вельмі аслабленай, з падарванай матэрыяльна-тэхнічнай базай, абмежаванымі працоўнымі рэсурсамі. Паводле афіцыйных звестак, за гады вайны матэрыяльныя страты ў сельскай гаспадарцы БССР склалі 45 млрд. рублёў (у цэнах 1941 г.), страты насельніцтва ў вёсцы склалі 782,2 тыс. чалавек. Значная частка вяскоўцаў была вывезена ў Германію. Асабліва вялікія страты назіраліся сярод мужчын. Была знішчана асноўная частка матэрыяльна-тэхнічнай базы калгасаў, саўгасаў і МТС, многія вёскі абязлюдзелі, 420,1 тыс. сем'яў засталіся без жылля. 628 вёсак было спалена разам з жыхарамі. Скарачэнне вясковага насельніцтва працягвалася і ў пасляваенны час за кошт працэсаў урбанізацыі, якія набіралі моц у БССР, а таксама планавых перасяленняў з мэтай асваення аддаленых і малазямельных рэгіёнаў Савецкага Саюза. Тым не менш, і ў аднаўленні сельскай гаспадаркі былі дасягнуты пэўныя поспехі. Так, на працягу пасляваеннага пяцігоддзя было пабудавана звыш 431 тыс. дамоў, дзе пражывала больш 2 млн. чалавек, на працягу 1950 г. колькасць трактараў у беларускіх калгасах павялічылася на 50%[1].

Звароты і скаргі калгаснікаў сведчаць, што працэсы індустрыялізацыі і урбанізацыі ў пасляваенны перыяд, а таксама ажыццяўленне сталінскай мадэлі калектывізацыі, у выніку якой селянін павінен быў ператварыцца ў рабочага з агародам, не пахіснулі асноў калгасна-вясковага жыцця. Па-ранейшаму яго першаснай сацыяльна-эканамічнай адзінкай з'яўляўся калгасны двор, які быў генетычна звязаны з адзінаасобным сялянскім дваром,

[1] Сорокин А. Н. Эксперимент: человек и земля. Мн., 1994. С. 70.

з'яўляючыся, як і апошні, сямейна-працоўным аб'яднаннем. Калгасны двор быў тым сацыяльным інстытутам, які працягваў адвечныя сялянскія традыцыі працы і побыту, перш за ўсё, – перадачу з пакалення ў пакаленне пачуцця гаспадара зямлі, працавітасці, самастойнасці. Найбольшым цяжарам была сістэма падаткаабкладання сялянскага двара, якая склалася яшчэ ў 1930-я гг. Сістэма абавязковых паставак дзяржаве зерня была пашырана на іншыя віды прадукцыі – мяса, малако, яйкі, бульбу. Значна быў павышаны і грашовы сельскагаспадарчы падатак на прысядзібную гаспадарку калгасніка. Усе вясковыя працаўнікі былі пад жорсткім, несправядлівым кантролем, іх праца аплачвалася жабрацкімі працаднямі, а самі яны былі ў стане напаўпрыгонных, не мелі пашпартоў і былі пазбаўлены права свабоднага перамяшчэння па краіне[1].

У 1949 г. была прынята трохгадовая праграма паляпшэння становішча ў жывёлагадоўлі[2]. “Паляпшэнне” – афіцыйны тэрмін, хаця варта было казаць пра выратаванне жывёлагадоўлі. Выканана гэтая праграма не была, наадварот – напярэдадні тэрміну яе заканчэння сітуацыя пагражала выйсці з-пад кантролю. У маі 1950 г. М. С. Хрушчоў яшчэ пагоршыў стан сельскай гаспадаркі сваім планам зліцця малых калгасаў у аграгарады[3]. Амаль паўсюдна гэта кампанія была ўспрынята калгаснікамі як катастрофа. Падчас ліквідацыі малых вёсак і пераводу іх жыхароў у іншыя месцы – без усялякай падрыхтоўкі, фінансавай падтрымкі і нават транспарту – людзі проста спынялі працу. Уцёкі сялян у гарады прывялі да таго, што там пачаў адчувацца недахоп хлеба, бульбы, жыроў, іншых прадуктаў. Не лепшым было становішча ў саўгасах і МТС, якія належалі дзяржаве. Больш паспяховымі былі гаспадаркі, якія выраблялі тэхнічныя культуры, – іх менш абкладалі падаткамі, частка іх выдаткаў фінансавалася з дзяржбюджэта і г.д. Але і ва ўкараненне тэхнічных культур Сталін здолеў унесці элемент ірацыянальнасці. Дастаткова прыгадаць вырошчванне ў беларускіх кліматычных умовах экзатычнага кок-сагызу для атрымання ўласнай крыніцы вырабу натуральнай гумы.

---

[1] Катышевцева Е. В. Состояние советской деревни в первые послевоенные годы (1945–1953 гг.). Новосибирск, 1994. С. 15.

[2] Постановление Совета Министров СССР от 21 апреля 1949 г. «О мерах по обеспечению развития племенного высокопродуктивного животноводства // Решения партии и правительства по хозяйственным вопросам (1917-1967 гг.). М., 1968. С. 572.

[3] Постановление ЦК ВКП(б) от 30 мая 1950 г. «Об укрупнении мелких колхозов и задачах партийных организаций в этом деле // Решения партии и правительства по хозяйственным вопросам (1917-1967 гг.). М., 1968. С. 614.

У шматлікіх скаргах пасляваеннага часу выразна адлюстраваны ўсе негатыўныя бакі калектывізацыі ў заходніх абласцях БССР. Як вядома, партыйна-савецкімі ўладамі былі прыняты меры па ажыццяўленні калектывізацыі Заходняй Беларусі адразу пасля яе далучэння ў верасні 1939 г. Гэта работа вялася адначасова з наступам на заможныя гаспадаркі найперш шляхам канфіскацыі часткі іх зямель, якія перадаваліся калгасам альбо пераходзілі ў дзяржаўны фонд з мэтай надзялення малазямельных сялян. Апошняе, разам з моцнай агітацыйна-прапагандысцкай работай, верай значнай часткі бедных сялян у ідэалы сацыялізму і ў першую чаргу арганізацыйна-націскныя метады, садзейнічала інтэнсіўнаму стварэнню калектыўных гаспадарак на заходнебеларускіх землях. Аднačасова з калгасамі на землях былых шляхецкіх маёнткаў утвараліся саўгасы. У час нямецкай акупацыі тэрыторыі БССР калгасы і саўгасы былі распушчаны.

У першыя пасляваенныя гады ў заходняй частцы рэспублікі (у адрозненне ад усходняй) сельскагаспадарчая вытворчасць аднаўлялася пераважна на аснове індывідуальнай сялянскай гаспадаркі. Аднačасова аднаўлялася работа арганізаваных у даваенны час калгасаў і саўгасаў, ішло актыўнае стварэнне новых. Жорстка і буйнамаштабна праводзілася палітыка раскулачвання. У мэтах яе актывізацыі Савет Міністраў СССР у верасні 1951 г. прыняў спецыяльную пастанову “Аб высяленні кулакоў з Беларускай ССР”[1]. У ходзе яе выканання адміністрацыйна-карныя органы толькі ў 1952 г. выслалі за межы рэспублікі 4 431 кулацкую сям’ю. Адметнымі рысамі калектывізацыі на заходне-беларускіх землях былі не толькі кароткія тэрміны яе правядзення, але і складаныя палітычныя ўмовы, працяг узброенага супраціўлення сялян, новы наступ партыйна-дзяржаўнага апарату на былых палітычных дзеячаў, інтэлегенцыю, каталіцкіх святароў. У спалучэнні з жорсткімі рэпрэсіямі ў адносінах да заможнай часткі вёскі ўсё гэта прывяло да амаль поўнай калектывізацыі на працягу некалькіх гадоў. На канец 1950 г. у заходніх абласцях БССР налічвалася 6 054 калгасы і 78 МТС[2].

Шэраг скаргаў і зваротаў дазваляе прасачыць тыповыя праблемы, якія паўставалі ў першыя пасляваенныя гады перад беларускай моладдзю. Афіцыйна з 1920-х па 1960-я гг. у Савецкім Саюзе не існавала маладзёжных праблем. У адрозненне ад моладзі буржуазнага грамадства, савецкая моладзь не ўдзельнічала ў канфлікце пакаленняў. На ўсе пытанні паміж бацькамі і дзецьмі былі

[1] Адамушка У. Палітычныя рэпрэсіі 20–50-х гадоў на Беларусі. Мн., 1994. С. 113.
[2] Нарысы гісторыі Беларусі. Мн., 1995. Ч. 2. С. 334.

знойдзены адказы, і любое магчымае напружанне паступова растваралася ў сацыялістычным грамадстве, дзе не сям’я, а дзяржава адыгрывала асноўную ролю ў сацыялізацыі маладых людзей. Зніклі маладзёжныя субкультуры, таксама як звычаі і святы, звязаныя з моладдзю ў вясковых супольнасцях. Энтузіязм моладзі, яе надзеі на светлую будучыню, любоў да жыцця і работы былі пастаўлены ў цэнтр камуністычнай ідэалогіі. На маладых людзей была ускладзена роля будаўнікоў камунізму. З умацаваннем курсу на пабудову камунізму, паняцці “моладзь” і “камуністычная будучыня” зрабіліся непадзельнымі. Якасці моладзі, сплаўленыя з камуністычнай ідэалогіяй, павінны былі стварыць новы тып “савецкага чалавека”. Новыя савецкія людзі абавязаны былі быць жыццярадаснымі, энергічнымі, любячымі радзіму і ахопленымі надзеямі на будучыню сваёй маладой краіны. Выявы ідэальных грамадзян краіны, прадстаўленыя ў мастацтве сацрэалізму 1940-50 гг., малююць гарадскую і вясковую моладзь, якая ззяе ад працоўнага поту на карысць будаўніцтва камунізму. Сярод іх няма ніводнага чалавека сталага ўзросту.

Савецкая сістэма імкнулася спланаваць усе сферы жыцця новага чалавека, і ў рамках гэтай сістэмы паняцце “моладзь” было добра распрацавана. Маладыя людзі, якія імкнуліся дасягнуць поспеху ў сістэме, у дзяцінстве ўступалі ў піянеры, потым ва ўзросце 14 гадоў – у камсамол, і чакалася, што недзе ў 28 гадоў яны павінны будуць падаць заяву аб прыёме ў партыю. Маладосць афіцыйна заканчвалася ў 35 гадоў. Існавала цэлая сістэма дзяржаўных органаў і афіцыйных пасад, звязаных з моладдзю, а таксама катэгорыя адміністрацыйных органаў пад эгідай маладых палітыкаў. Патэрналісцкі падыход забяспечваў пэўную ўвагу да моладзі, але ў той жа час перашкаджаў здзяйсненню любых яе незалежных ініцыятыў, якія ішлі насуперак ужо спланаваных альбо чакаемых працэсаў.

Вялікая колькасць скаргаў выйшла з-пад пяра жанчын, на долю якіх прыпала значная частка ваенных цяжкасцей. Пасля вайны іх становішча палепшылася не нашмат. Жанчыны звычайна пісалі пра набалелае – дзіцячыя садкі, пенсіі, санаторны адпачынак, стварэнне нармальных умоў працы. Але галоўным лейтматывам іх зваротаў да вышэйшага партыйнага кіраўніцтва ўсё ж было самае набалелае – просьбы аб уратаванні сям'і альбо аб дапамозе ў стварэнні новай. Гэта цалкам зразумела. Калі ў 1940 г. у СССР жанчын было больш за мужчын на 7 млн., то ў 1950 г. – ужо на 20 млн.

Вайна аслабіла адну з галоўных крыніц нарошчвання высілкаў у сферы прамысловасці – мужчынскую працоўную сілу. У той жа час узрослыя глабальныя магчымасці і амбіцыі Сталіна не дазвалялі

пайсці на скарачэнне мабілізацыйных высілкаў. Поруч з раней гучаўшымі і раней заклікамі моладзі ў прамысловасць, на шахты і да т.п. шырока выкарыстоўвалася ідэалагічнае стымуляванне цяжкай фізічнай працы жанчын. Сацыяльна і палітычна яны заставаліся ніжэйшым класам. Жанчынам у прамысловасці і сельскай гаспадарцы даводзілася выконваць у асноўным ручную і некваліфікаваную працу. Дзяржаўныя планы будаўніцтва дзіцячых садкоў выконваліся толькі напалову. Кіраўніцтвам рабіліся спробы выправіць сітуацыю. Напрыклад, гэтай праблеме, была прысвечана спецыяльная нарада ЦК ВКП(б), якая адбылася напрыканцы 1950 г. Пра гаротны лёс жанчын-сялянак удзельнікам нарады нагадала рэдактар часопіса «Крестьянка». Яе словы пра тое, што вясковая жанчына – «абсевак» у полі, што яна заўчасна робіцца старой, яе не дапускаюць да кіруючых пасад, былі даведзены да Г. М. Малянкова як «глыбока памылковыя і палітычна шкодныя». Нават на агульным невясёлым фоне пасляваеннага стану краіны жаночы лёс выглядаў вельмі змрочна[1].

Нарэшце, шэраг матэрыялаў зборніка адлюстроўвае латэнтную палітыку дзяржаўнага антысемітызму ў пасляваенным СССР, і, як вынік яе, павелічэнне колькасці праяў побытавай юдафобіі. Пачынаючы з 1949 г. антысемітызм спалучаўся з “барацьбой супраць касмапалітаў”, якая дасягнула апагею ў 1953 г., падчас “справы ўрачоў”. Першым моцным ударам па савецкіх яўрэях у пасляваенны час была справа Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, якая пачалася ў 1946 г. Ніякіх доказаў антысавецкай дзейнасці сяброў камітэта ў органаў дзяржбяспекі не было. На сваіх пасяджэннях яны абмяркоўвалі спецыфічна яўрэйскія праблемы – генацыд яўрэяў падчас II сусветнай вайны, аднаўленне яўрэйскіх культурных устаноў, закрытых у 1930-х гг., стварэнне новых яўрэйскіх газет. Тады ж паўстала пытанне пра ўтварэнне ў Гомельскай вобласці аўтаномнага яўрэйскага этнічнага рэгіёна і рассяленне яўрэяў, што засталіся пасля нацысцкага генацыду, на тэрыторыі Крыма (ў Сталіна былі зусім іншыя планы – ён рыхтаваў дэпартацыю ўсяго яўрэйскага насельніцтва СССР на Далёкі Усход).

У студзені 1948 г. у Мінску быў забіты старшыня Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта, народны артыст СССР С. М. Міхоэлс[2]. У верасні таго ж года пачаліся арышты сяброў камітэта, абсалютная

---

[1] Костюкевич В. Ф., Романовский Н. В. Грани позднего сталинизма… С 13.

[2] Гэта забойства было здзейснена па загаду Сталіна. Непасрэднымі выканаўцамі яго з’яўляліся намеснік міністра дзяржбяспекі СССР С. І. Агальцоў і міністр дзяржбяспекі БССР Л. Ф. Цанава.

большасць якіх была расстраляна. Са справай Яўрэйскага антыфашысцкага камітэта было штучна звязана яшчэ каля 70 спраў. Па ўсёй краіне пачаліся антысеміцкія судовыя працэсы, атрымаўшыя афіцыйную назву “працэсаў над удзельнікамі арганізацый яўрэйскіх буржуазных нацыяналістаў”. Пад нож рэпрэсій трапілі работнікі шэрагу міністэрстваў, сродкаў масавай інфармацыі, аховы здароўя і інш. Пачалося выцісканне яўрэяў пад рознымі зачэпкамі з кіраўнічых пасад у прамысловасці і культуры. Узніклі складанасці з прыняццем абітурыентаў-яўрэяў у ВНУ. На кухнях камунальных кватэр, падчас перапынкаў на прадпрыемствах наладжваліся калектыўныя чытанні фельетонаў пра махлярствы яўрэяў. У краіне ствралася атмасфера пагрому.

Такім чынам, атмасфера пасляваеннага беларускага грамадства фарміравалася не толькі поспехамі ў аднаўленні народнай гаспадаркі, энтузіязмам перамогі, але і ўсеагульным страхам, знявагай да чалавечай асобы, беззаконнасцю, дагматызацыяй грамадскай думкі. Магчымасць аўтарытарнага вырышэння пытання нараджала адчуванне безадказнасці ў адных і пасіўнасць у другіх, кансервавала грамадскую думку, стрымлівала яе развіццё аглядкай на высокія аўтарытэты. Пры вырашэнні надзённых пытанняў апелявалі не да патрабаванняў практыкі, а да падтрымкі гэтых аўтарытэтаў, перш за ўсё Сталіна. Імя Сталіна выкарыстоўвалася як сцяг, вышэйшая інстанцыя, апошні аргумент у любой спрэчцы. Сціплыя спробы ўзняць "хворыя пытанні" танулі ў агульнай плыні паўтораў афіцыйнага пункту гледжання і адзінадумстве. Быў працягнуты курс на нарашчванне эканамічнай магутнасці дзяржавы, замаскіраваны пад пабудову камунізму. Каркасам гэтага курсу з’яўлялася грамадска-палітычная сістэма сталінізму.

У прапануемым зборніку змешчаны выключна архіўны матэрыял без скарачэнняў, с захаваннем усіх стылістычных і арфаграфічных асаблівасцей арыгіналаў. На думку ўкладальніка, мова, якой паўстагоддзя таму карысталіся аўтары зваротаў (у першую чаргу гэта тычыцца сялян), уяўляе адзінае цэлае са зместам і перадае каларыт эпохі. З этычных меркаванняў імёны аўтараў лістоў, а таксама асоб, на якіх яны скардзяцца, пазначаны ініцыяламі. Пасля кожнага ліста ў сціслым выглядзе змешчаны вынікі яго разгляду ва ўладных структурах (за выключэннем тых выпадкаў, калі вынікі не захаваліся).

Хацелася б спадзявацца, што прапануемы архіўны матэрыял падштурхне да рэканструявання складанага, супярэчлівага і пакуль малавывучанага паўсядзённага жыцця людзей у БССР.

А. А. Гужалоўскі

## ХРОНІКА ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАГА І КУЛЬТУРНАГА ЖЫЦЦЯ БССР У 1951 г.

*24 студзеня* – з нагоды згоды Сталіна балаціравацца ў дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР па Сталінскай акрузе ў Мінску адбыўся 100-тысячны агульнагарадскі мітынг;

*Студзень* – у БДУ адбылася навуковая канферэнцыя, прысвечаная працам Сталіна па пытаннях мовазнаўства;

*Студзень* – на Усесаюзнай мастацкай выстаўцы ў Маскве БССР была прадстаўлена маштабным палатном "Слава вялікаму Сталіну!" мастакоў Я. Ціхановіча і І. Давідовіча;

*Студзень* – выйшаў з друку альбом "К. Я. Варашылаў і Беларуская ССР";

*3-4 лютага* – адбыўся VI пленум ЦК ЛКСМБ, на якім абмяркоўваліся шляхі паляпшэння работы піянерскай арганізацыі;

*12-14 лютага* – адбыўся VI пленум ЦК КП(б)Б, прысвечаны ўмацаванню калгасаў і ўздыму сельскай гаспадаркі;

*25 лютага* – адбыліся выбары ў Вярхоўны Савет БССР, дзе ўсе аднагалосна прагаласавалі за "блок камуністаў і беспартыйных";

*Люты* – заслужаны дзеяч мастацтваў БССР скульптар А. Бембель закончыў работу над скульптурай беларускай сялянкі, якая неўзабаве ўпрыгожыць беларускі павільён на Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы;

*Люты* – прынята рашэнне аб узвядзенні 20-мятровага помніка Сталіну на Цэнтральнай плошчы ў Мінску;

*Люты* – закончыўся конкурс на лепшы праект помніка-манумента ў Мінску на Круглай плошчы воінам Савецкай Арміі і партызанам, загінуўшым у баях за вызваленне Беларусі (конкурс выйгралі архітэктары Г. Заборскі і В. Кароль);

*Люты* – распачата выданне 6-томнага збору твораў Я. Купалы;

*Люты* – адсвяткаваў сваё 30-годдзе БДУ, на шасці факультэтах якога навучалася 1700 студэнтаў;

*1 сакавіка* – адбылося чарговае паніжэнне цэн на прамысловыя і харчовыя тавары на 10-20% ;

*26 сакавіка* – у Мінску адбылася рэспубліканская нарада жанчын-актывістак сельскай гаспадаркі;

*27 сакавіка* – ў Дзяржаўным рускім драматычным тэатры БССР адбылася сустрэча моладзі з артыстамі тэатра, дзе маладыя рабочыя, служачыя, студэнты падверглі справядлівай дзелавой крытыцы работу тэатра;

*8 красавіка* – у мінскім Доме афіцэраў адбыўся канцэрт Д. Шастаковіча;

*Красавік* – адбыўся IV пленум праўлення Саюза савецкіх пісьменнікаў БССР, прысвечаны мове літаратурнага твора ў святле прац Сталіна па мовазнаўстве;

*1 мая* – у новым будынку адкрыўся літаратурны музей Я. Купалы;

*7 мая* – адкрыўся Пінскі абласны гісторыка-краязнаўчы музей;

*Май* – арганізавана прайшоў подпіс на дзяржаўную пазыку;

*25 чэрвеня* – у Мінску ў парку Чалюскінцаў адбыўся матацыклетны крос на першынства горада;

*29 чэрвеня* – у Маладзечна прайшоў кінафестываль “Наша вялікая Радзіма”;

*Чэрвень* – у Віцебскім парку культуры і адпачынку імя Фрунзе адкрыўся Зялёны тэатр;

*27 ліпеня* – у тэатры імя Я. Купалы адкрыўся сход інтэлігенцыі г. Мінска, прысвечаны вынікам партыйнай вучобы;

*Ліпень* – на плошчы Свабоды ў Мінску адкрыўся кніжны кірмаш;

*Ліпень* – прайшла VII усебеларуская спартакіяда;

*Ліпень—жнівень* – на Мінскім замчышчы праводзіліся археалагічныя раскопкі;

*5-6 верасня* – у Беларускім дзяржаўным тэатру оперы і балета праходзіла Беларуская рэспубліканская канферэнцыя прыхільнікаў міра, якую адкрыў Я. Колас;

*1 кастрычніка* – адкрыўся Гродзенскі дзяржаўны сельскагаспадарчы інстытут;

*Кастрычнік* – пачалося праектаванне першай ў рэспубліцы тралейбуснай лініі;

*11 лістапада* – у памяшканні Мінскага акруговага Дома афіцэраў імя К. Я. Варашылава адкрылася рэспубліканская выстаўка выяўленчага мастацтва. Увагу гледачоў прыцягвалі скульптурны партрэт Сталіна работы З. Азгура, карціна “Ленін і Сталін у Горках” работы В. Цвіркі і інш.;

*Лістапад* – закончана выданне твораў Леніна на беларускай мове;

*25 снежня* – выйшаў указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР “Аб дзяржаўным сцягу БССР”, які складаўся з двух гарызантальных палос чырвонага і зялёнага колеру з залатымі зоркай, сярпом і молатам у верхнім левым куце і вертыкальна размешчаным нацыянальным арнаментам каля дрэўка.

## Раздзел І. Твар улады

№ 1

Секретарю ЦК КП(б)Б т. Потоличеву[1]

21 февраля 1951 г. в Горках состоялся пленум РК КП(б)Б, где с докладом выступил первый секретарь райкома т. Р. Доклад продолжался более 2-х часов, причем был очень сух, без всякой критики и самокритики. Основное т. Р. останавливался на достижениях Белорусской Советской Социалистической республики. А что творится в районе и какие его достижения он почти ничего не сказал. Ничего не сказал как РК КП(б)Б перестроил свою работу. За последних два года в райкоме беспрерывно меняются работники. И в настоящий момент райком укомплектован грубыми некультурными людьми, очковтирателями и проходимцами.

С первых их можно назвать секретаря по кадрам т. Д. Он очень любит подвыпить и тогда он может и работу подходящую предложить. На район он выезжать не любит, а если выезжает то с очередной накачкой. Ни одного доклада на политические темы среди населения он еще не делал. Авторитетом даже среди работников райкома не пользуется. Не так давно он был в Ленинском с/совете по отчетновыборным собраниям колхозов. Почему бы т. Д. не сделать доклад среди колхозников. О международном положении, о постановлении партии и правительства об укрупнении колхозов, а потом провести и собрание. Но т. Д. принципиальный, он «нажимать» умеет крепко.

Возьмем пропагандистов РК КП(б)Б, которые тоже выезжают на район лишь бы съездить, а хорошему никто ничего не научился. За

---

[1] Патолічаў Мікалай Сямёнавіч (1908-1989) – савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, нарадзіўся ў с. Золіна Гарахавецкага пав. Уладзімірскай губ. У 1937 г. скончыў Ваенную акадэмію хімічнай абароны, у 1928-31 гг. знаходзіўся на камсамольскай рабоце, з 1938 г. – на партыйнай рабоце, у апараце ЦК ВКП(б), першы сакратар Яраслаўскага, Чалябінскага абкомаў і гаркомаў партыі, загадчык аддзела ЦК ВКП(б). У 1946-47 гг. з'яўляўся сакратаром ЦК ВКП(б) і адначасова намеснікам старшыні Савета па справах калгасаў пры Савеце Міністраў СССР. З сакавіка 1947 г. – сакратар ЦК КП(б) Украіны, са жніўня – першы сакратар Растоўскага абкома і гаркома партыі. З ліпеня 1950 па ліпень 1956 г. з'яўляўся першым сакратаром ЦК КП(б)Б. У чэрвені 1953 г. Л. П. Берыя зрабіў спробу змясціць М. С. Патолічава з пасады першага сакратара ЦК, аднак на IV пленуме ЦК КПБ беларускія камуністы не далі аднадушнай згоды на такую кадравую змену. З 1956 г. знаходзіўся на дыпламатычнай рабоце, у 1958-85 гг. – міністр замежнага гандлю СССР.

райком пускай отделываются уполномоченные от райкома, что в учреждениях работа срывается, это ерунда. А по всякой работе, которую только возложить на райком КП(б)Б нужно, они стараются посылать других. Бывают и поверяющие с обкома, но почему то никто ничего не замечает. Делаются ли доклады среди трактористов, помогает ли райком КП(б)Б М.Т.С. Поверяющие покровительствуют районному комитету партии.

А что в районе делается? Это тихий ужас. Еще много семей живут в землянках, бункерах, как в Ленинском, Ворошиловском с/советах. У нас очень много падежа скота, особенно молодняка почти в каждом колхозе. Скот истощенный еле ходит. Посмотрите в свиноферму, которая находится в д. Тосно Паршинского с/совета. И от ужаса закружится голова, как мучаются свиньи, посмотрите и спросите чем их кормят. Свинноматки поросятся, а поросенка почти ни одного нет все они померзли.

Партийно политическая работа в первичных организациях находится на низком уровне. Секретари райкома партии редко бывают в первичных организациях, а если где и бывают, то относятся обывательски. Секретари первичных партийных организаций помощи не получают. А исходя из этого поставлена работа в колхозах. Скотные фермы почти все в ужасном положении. Когда же кончится очковтирательство. Ложные сводки, красиво и красноречиво изложенные протоколы. Когда же этих горе-руководителей перестанут покровительствовать. Этим государственным преступникам разве место на руководящих постах, которые своими красноречивыми словами и ложными сводками отделываются от поверяющих, а район на краю провала. И поверка со стороны обкома и ЦК КП(б)Б формальная. Остаются довольны, прочев красиво изложенные протоколы бюро райкома.

Надеемся т. Патоличев, что вы эти факты не оставите не выясненными. И поможете нам устранить эти факты.

Одновременно анологичное письмо послано в ЦК ВКП(б)

27/II-51

НАРБ, ф. 4, воп. 65, спр. 115, арк. 335-337.

*У сакавіку 1951 г. Магілёўскі абком КП(б)Б праводзіў праверку ананімнага ліста. Падчас праверкі факты, выкладзеныя ў ім, у цэлым пацвердзіліся, першы сакратар Горацкага райкома Р. прызнаў свае памылкі і атрымаў на абласной партканферэнцыі парады па паляпшэнні кіраўніцтва раёнам, на чым справа скончылася.*

